У дапамогу агароднікам!
старонка 13



Рэгіянальная газета. Rh.by
25 год мы з вамі!
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».
21 лютага 2020 года №8 (1295)
18+

# 21 лютага – Дзень роднай мовы






Гісторыі людзей, якія з'ехалі ў іншую краіну, але родную мову не забылі
старонка 2

Памёр легендарны разведчык Аляксей Бацян. Ён быў родам з Валожыншчыны
старонка 8

Якую працу прапаноўвалі на кірмашы вакансій у Вілейцы
старонка 3

ISSN 1991–7155
9 771991 715006 20008

Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# З'ехалі ў іншую краіну, але родную мову не забылі

**21 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы. Мы пагутарылі з людзьмі, якія жывуць далёка ад сваёй радзімы, але родную мову не забылі.**

### Леанід Лысакабылка: рускія дзяўчаты прасілі чытаць байкі па-ўкраінску



Украінец Леанід Лысакабылка ў Маладзечне жыве ад 1979 года. Доўгі час ён узначальваў маладзечанскае аб'яднанне ўкраінцаў «Краяны». І цяпер, перадаўшы кіраванне **Ясеніі Мікуліч**, ён актыўна ўдзельнічае ў працы аб'яднання.

Спадар Леанід нарадзіўся ва Украіне ў сяле Лігаўка Харкаўскай вобласці. Кажа, дома размаўлялі толькі па-ўкраінску.

– Я ўжо дарослым хлопцам у 1959 годзе паехаў падымаць цаліну. І тады рускай мовы не ведаў зусім. Затое рускія дзяўчаты ў нашай моладзевай кампаніі заўсёды вельмі прасілі, каб я чытаў ім украінскія байкі. Гэта цяпер да ўкраінскай мовы рускія па-рознаму ставяцца, – дзеліцца Леанід Міхайлавіч.

Сёння наш суразмоўца не траціць сувязі з Украінай, роднай моваі і культурай. Ва Украіне жывуць яго родныя браты і сястра. У родную Лігаўку Леанід Лысакабылка ездзіў на 50-гадовы юбілей заканчэння школы.

Па-ўкраінску мужчына размаўляе дома з жонкай. Яна – беларуска, філолаг па адукацыі. Добра ведае нямецкую і французскую мовы, разумее і ўкраінскую. Некаторыя словы з заходняй Украіны яна нават мне перакладае, бо я не ўсё разумею, кажа спадар Леанід.

Мужчына наведвае курсы ўкраінскай мовы, што ладзяць у Маладзечне, мае вялікую калекцыю кніг на роднай мове. А на канцэртах «Краянаў» у яго выкананні гучаць украінскія байкі.

### Галіна Сарочык: украінцы вельмі любяць беларускую мову

Наступная суразмоўца, **Галіна Сарочык**, – беларуска. Яна нарадзілася ў Ашмянах, шмат год працавала доктарам у Валожыне, а потым – у Мінску.

**Ва Украіну спадарыня Галіна з'ехала восем гадоў таму. Кажа, і сёння адчувае сябе тут вельмі ўтульна.**



**Галіна Сарочык (злева) з сяброўкай Аленай Дацэнкай у Кіеве на Дні Незалежнасці Украіны.**

У Кіеве з сябрамі размаўляе выключна па-беларуску. Арганізавала аб'яднанне «Сябры», дзе згуртаваліся беларусы Кіева.

– Каб я не валодала беларускай мовай, мне б цяжэй было авалодаць украінскай. А так я нават не вучыла яе адмыслова, – кажа жанчына.

Украінскую мову мая субяседніца чула з дзяцінства, бо яе тата з Гомельшчыны. І бабуля, якая там жыла, размаўляла больш па-ўкраінску.

Спадарыня Галіна кажа, што ўкраінцы не толькі разумеюць беларускую мову, але і любяць яе. Просяць, каб Галіна Васільеўна размаўляла не па-ўкраінску, а па-беларуску. Таму яна час ад часу ўжывае толькі асобныя ўкраінскія словы.Ніякага прыцяснення беларускай мовы ва Украіне наша суразмоўца не адчувае.

Тут жа існуе размоўны беларускі клуб. Яго наведваюць украінцы, якія маюць цікавасць да беларускай мовы, гісторыі і культуры Беларусі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фотаздымкі забяспечаныя героямі публікацыі.**



Прадстаўнікі вілейскіх арганізацый чакаюць працадаўцаў.

# Дзе можна зарабіць семсот рублёў і нават больш

## Як праходзіў кірмаш вакансій у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**13 лютага ў фае Цэнтра занятасці зладзілі чарговы кірмаш вакансій. Працу прапаноўвалі дзевяць прадпрыемстваў.**

Прыблізна столькі ж за гадзіну, адведзеную на мерапрыемства, прыйшло і шукальнікаў.

Аўтобусны парк №5 шукаў кіроўцаў з катэгорыямі Д і Е. Ездзіць трэба па горадзе, прыгарадзе і міжгорадзе.

Па словах спецыяліста, для працы кіроўцы важны досвед. Але ж можна стажыравацца і адразу на прадпрыемстве. Заробак абяцаюць у межах 700 рублёў.

Яшчэ больш зможа атрымаць той, хто пойдзе працаваць слесарам па рамонце аўтамабіляў. І абавязкова, каб спецыяліст умеў працаваць з электраабсталяваннем. Калі новы чалавек будзе добрым майстрам, тут абяцаюць высокі заробак. Вышэйшы, чым у кіроўцаў.

Яшчэ адна вакансія ад аўтапарка – інжынер на станцыю тэхабслугоўвання. Тут абавязковая вышэйшая інжынерная адукацыя.

Віляйчук **Сяргей** мае вышэйшую тэхнічную адукацыю. Працаваў у будаўнічых арганізацыях. А цяпер, кажа, ні аб'ектаў, ні заробку. Можа працаваць механікам, майстрам. Прадстаўнікі аўтапарка пазначаюць кантакты шукальніка.

ДРБУ-162 у кірмашы вакансій удзельнічае ўпершыню. Спадзяецца знайсці кіроўцу на пагрузчык. Адзначаюць, што патрэбныя правы трактарыста. Заробак 500-600 рублёў.

Работнікаў у летнік «Лясная казка» ўжо пачынае шукаць упраўленне адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама. У летнік патрэбныя повары, выхавальнікі, рабочыя. А ў сам аддзел гатовыя ўзяць намесніка галоўнага бухгалтара.

Свае вакансіі прапаноўвалі таксама «Садружнасць», райспажыўтаварыства, Вілейскае ЖКГ, ДБУ №13.

### Беспрацоўных – 52, вакансій – 420

Вакансій было значна больш, чым шукальнікаў. Чаму так не актыўна вілейчукі шукаюць працу, мы распыталі ў начальніка аддзела занятасці **Таццяны Цітуленкі**.

– Цяжка сказаць, чаму так. Усіх, хто стаіць у нас на ўліку, мы папярэдзілі. Магчыма, людзей не задавальняюць умовы працы, заробак. Бо ўсе гэтыя вакансіі ёсць на нашым сайце. Інфармацыйную працу мы правялі дастатковую, лічыць **Таццяна Чаславаўна**.

На 1 лютага на Вілейшчыне зарэгістравалі 52 беспрацоўных. А вакансій у раёне – 420. Па назіраннях суразмоўцы, цяпер рынак працы стаў мабільным. Чалавек не прывязаны да месца. Вілейчукі ездзяць на працу ў Маладзечна, маладзечанцы – у Мінск.

– Дзіўна, што людзі не актыўна карыстаюцца магчымасцю перавучыцца ад аддзела занятасці, – кажа Таццяна Цітуленка. – Мы ж можам накіраваць вучыцца практычна на любую спецыяльнасць.

Да таго ж будзем аплачваць вучобу, праезд і пражыванне.

Гэта добрая магчымасць. Нават калі табе за 50 і вышэйшая адукацыя, атрыманая дзесяцігоддзі таму, ужо не актуальная, трэба вучыцца, а не ставіць на сабе крыж.

Днямі якраз набралі групу на курс «Асновы прадпрымальніцкай дзейнасці». Курсы працуюць на базе Вілейскага дзяржаўнага каледжа. Навучаюцца 12 чалавек. Магчыма, гэтыя людзі пачнуць сваю справу і атрымаюць субсідыю на яе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.02 | 20.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1919 | **2.2040** |
| Еўра | 2.3923 | **2.3805** |
| Злоты, 10 | 5.6199 | **5.5701** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4800 | **3.4638** |
| Грыўня, 100 | 8.9330 | **8.9836** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **12.02** | **19.02** |
| Еўра | 2.3350/2.4200 | **2.3300/2.4050** |
| Долар ЗША | 2.1500/2.2250 | **2.1700/2.2400** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | **12.02** | **19.02** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,10 | **5,10** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,15 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 9,80 | **15,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,40 | **1,40** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,90** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | **2,30** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,75 | **1,75** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Перац, 1 кг | 4,90 | **7,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **8,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,40 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,70** |
| Ківі, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | **5,50** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Самы смачны хлеб спёк навучэнец з Маладзечна

**14 лютага на базе Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа правялі абласны этап рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства WorldSkills Belarus-2020 па кампетэнцыі «Хлебапячэнне».**

МАЛАДЗЕЧНА

Спаборнічалі прадстаўнікі трох устаноў прафесійнай адукацыі Міншчыны. Пяць гадзін удзельнікі рыхтавалі цеста, начынне і выпякалі хлебабулачныя вырабы: прэтцэль (нямецкі абаранак), багет, здобны булачны і плецены выраб.

Якасць працы ацэньвалі галоўны эксперт рэспубліканскага конкурсу WorldSkills Belarus-2020 па прафесійнай кампетэнцыі «Хлебапячэнне», а таксама прадстаўнікі ўстаноў сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

Першае месца заняў **Дзмітры Крот**, навучэнец Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа.

**Аддзел інфармацыі.**

## На АЗС недалівалі паліва

АШМЯНЫ

На трох аўтазаправачных станцыях Гродзенскай вобласці спажыўцам недалівалі паліва. Пра гэта БелТА паведамілі ў аддзеле дзяржнагляду Гродзенскай абласной інспекцыі Дзяржстандарту.

Інспекцыя Дзяржстандарту рэгіёна ў снежні і студзені правяла маніторынгі аўтазаправачных станцый у Гродзенскай вобласці.

– Разам з тым, на дзвюх АЗС ЗТАА «Лукойл Беларусь», размешчаных у Лідскім раёне, і станцыі СТАА «Юнайтэд Компані» ў Ашмянскім раёне 10 паліўна-раздатачных калонак працавалі з пагрэшнасцю, якая перавышае дапушчальную. Гэта прывяло да недаліву паліва спажыўцу ад 60 да 100 мілілітраў на кожныя 50 літраў паліва, – распавялі ў аддзеле дзяржнагляду.

Па выніках наглядных мерапрыемстваў суб'ектам выдадзены рэкамендацыі па ліквідацыі парушэнняў.

**Паводле БелТА.**

## Аўтобус зачапіў пешахода

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 16 лютага ў 15:00.

Як расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**, на скрыжаванні Чапаева і Чырвонаармейскай, каля завода «Зеніт», аўтобус не прапусціў пешахода на пераходзе.

У выніку аўтобус зачапіў 32-гадовую жанчыну і пашкодзіў ёй кісць правай рукі. Як паведамляюць у РАУС, аўтобус не належаў Вілейскаму аўтапарку №5. Па факце праводзяць праверку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына хацеў скрасці спіртное з крамы

ВІЛЕЙКА

У суботу, 15 лютага, работнікі вілейскай крамы «Еўраопт» па вуліцы Чапаева затрымалі мужчыну, які хацеў незаўважна вынесці бутэльку гарэлкі і бутэльку віна.

Высветлілася, што, знаходзячыся ў гандлёвай зале, мужчына ўзяў з вітрыны дзве бутэлькі спіртнога на суму 12 рублёў 64 капейкі і засунуў іх у рукаво курткі. Пасля паспрабаваў незаўважна прайсці да выхаду.

Міліцыянеры ўстанавілі, што мужчына – жыхар Вілейкі. Яго неаднаразова прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці за дробны крадзеж і з'яўленне нецвярозым у грамадскіх месцах. Затрыманаму пагражае штраф або арышт, расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Кіроўца-віляйчанка на БМВ збіла васьмікласніцу

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

ДТЗ адбылося 14 лютага каля васьмі гадзін вечара.

31-гадовая жыхарка Вілейкі на БМВ ехала па вуліцы Замкавай у накірунку вуліцы Віленскай у Маладзечне, расказаў карэспандэнту старшы інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

Каля дома №50 жанчына наехала на 14-гадовую дзяўчынку, вучаніцу маладзечанскай школы №5. Яна пераходзіла дарогу па нерэгуляваным пешаходным пераходзе. Дзяўчынку шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне Маладзечанскай ЦРБ. ДАІ праводзіць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Патанулі два рыбакі

АСТРАВЕЦ

Трагічны выпадак здарыўся 17 лютага каля возера Едзі. Пра гэта ў Астравецкі РАНС каля 11:30 паведамілі відавочцы. Да месца выклікү выехалі работнікі МНС і Асвода.

Аднак, яшчэ ў працэсе размовы дыспетчара са сведкам, стала зразумела, што два мужчыны, якія праваліліся пад лёд, патанулі. Пра абставіны трагедыі відавочца распавёў, што на вадаёме насупраць возера Едзі ў яго і загінулых былі ўсталяваныя снасці для лоўлі шчупака. Яны адправіліся іх здымаць.

Каб падысці да патрэбнага месца, мужчыны пераадолелі балоцістую частку вадаёма па пракладзеных дошках. Далей быў лёд. А пад ім глыбіня – больш за чатыры метры. Бачачы ненадзейны стан лёду, сведка трагедыі паспрабаваў адгаварыць сяброў ад небяспечнай рыбалкі. Тыя яго не паслухалі.

Спачатку наперад ступіў адзін і праваліўся. Другі кінуўся, каб дапамагчы яму. І таксама праваліўся. Трэці стаў выклікаць ратавальнікаў.

Загінулыя – 29-гадовы і 24-гадовы мужчыны. Яны працавалі жывёлагадоўцамі на ферме «Страча» ў КСУП «Міхалішкі». Адзін з іх мясцовым, другі – з Мядзельскага раёна.

**Паводле ostrovets.by.**



Фота з суполкі «Тыпавае Маладзечна» vk.com.

На месцы здарэння.

# Таксі стукнулася ў дрэва

## Пацярпелі пасажыры – навучэнцы каледжа

МАЛАДЗЕЧНА

**Аварыя здарылася 16 лютага каля чатырох гадзін раніцы на вуліцы Віленскай.**

20-гадовы кіроўца на аўтамабілі-таксі «Рэно-Логан» ехаў па вуліцы Віленскай па крайняй правай паласе. Каля дома №11 ён стукнуўся ў прыдарожнае дрэва. У выніку пацярпелі два пасажыры – навучэнцы Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа: 19-гадовы хлопец і 17-гадовая дзяўчына. Яны атрымалі пашкоджанні. Хлопца шпіталізавалі.

Кіроўца быў цвярозы. Цяпер міліцыя праводзіць праверку здарэння, расказаў карэспандэнту старшы інспектар ДАІ Маладзечна **Сяргей Бартош**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Устанавілі 324 парушэнні на дарогах Міншчыны. У ДАІ падвялі вынікі акцыі «Пешаход»

**Работнікі ДАІ кантралявалі выкананне ПДР пешаходамі і тлумачылі парушальнікам небяспеку іх паводзінаў на дарозе.**

Ад пачатку года ў Маладзечанскім раёне зарэгістравалі дзевяць дарожна-транспартных здарэнняў. У іх адзін пешаход загінуў, а астатнія атрымалі раненні. Па віне нецвярозых кіроўцаў ДТЗ не зарэгістравалі.

За гэты ж перыяд на аўтадарогах Міншчыны адбылося 65 дарожна-транспартных здарэнняў, у выніку якіх 15 чалавек загінулі, 56 атрымалі траўмы. Прычым з агульнай колькасці ДТЗ 38 адбылося з удзелам пешаходаў, дзе 12 чалавек загінулі і 28 атрымалі траўмы.

Як бачым, па-ранейшаму пешаходны траўматызм па колькасці загінулых і траўмаваных людзей пераважае над усімі відамі ДТЗ, і ад яго найбольшы цяжар наступстваў.

Нягледзячы на дастатковую колькасць пешаходных пераходаў, людзі ўсё роўна свядома перабягаюць праезную частку ва неўстаноўленых месцах. А часам сядзяць або ляжаць на праезнай частцы, і практычна заўсёды – у стане ап'янення. Такія пешаходы – прамая небяспека для кіроўцаў, асабліва ва ўмовах абмежаванай бачнасці.

У пачатку лютага адбыліся па адным ДТЗ у Барысаўскім раёне і Маладзечне, дзе пешаходы пераходзілі праезную частку дарогі ва неўстаноўленых месцах, непасрэдна перад аўтамабілем, які рухаўся. Абодва выпадкі скончыліся смяротным зыходам.

2 лютага каля сямі раніцы на Віленскай у Маладзечне кіроўца на аўтобусе МАЗ наехаў на пешахода-пенсіянера, які пераходзіў праезную частку ва неўстаноўленым месцы. Пешаход ад атрыманых цялесных пашкоджанняў загінуў на месцы здарэння. Ён не быў абазначаны святлоадбівальнымі элементамі. Па дадзеным факце Маладзечанскім РАСК узбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 317 КК Рэспублікі Беларусь.

У ходзе акцыі супрацоўнікі ДАІ вобласці заўважылі і спынілі 324 праваапарушэнні з боку пешаходаў. 14 пешаходаў былі ў стане ап'янення. Іх прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. У астатніх выпадках з пешаходамі-парушальнікамі растлумачылі парушэнні імі пункты правілаў і вынеслі заўвагі.

На Міншчыне заўважылі больш за 60 кіроўцаў, якія не далі перавагі пешаходам на пешаходных пераходах. Дадзеныя правапарушэнні таксама кажуць аб бестурботнасці як кіроўцаў, так і пешаходаў.

Частая спешка, няўважлівасць, невыкананне ПДР, асабліва ў неспрыяльных умовах надвор'я, нясуць як для адных, так і для другіх непрыемнасці на дарозе.

Вынік прафілактычнай акцыі кажа пра тое, што і пешаходы, і кіроўцы працягваюць парушаць ПДР, не думаючы пра наступствы. І так званы «дыялог паміж кіроўцам і пешаходам» па гэтага часу не атрымоўваецца.

Улічваючы на сённяшні дзень складаную абстаноўку з пешаходным траўматызмам, праца дарожнай аўтаінспекцыі накіравана на папярэджанне і прафілактыку ДТЗ, дзе асноўным пунктам з'яўляецца захаванне чалавечых жыццяў. І для вырашэння дадзенай праблемы не хапае паўнавартаснай аддачы і ад саміх удзельнікаў дарожнага руху, а канкрэтна – кіроўцаў і пешаходаў. Ваша бяспека – у вашых руках!

**Сяргей БАРТОШ, ДАІ Маладзечна.**

# Дашкольнікі пазнаёміліся з беларускімі рамёствамі

СМАРГОНЬ

**У старэйшай групе №6 ясляў-сада №15 Смаргоні правялі тэматычны тыдзень «Беларускія народныя промыслы».**



Выхаванцы на занятках.

На працягу тыдня выхаванцы знаёміліся з беларускімі рамёствамі, з працай народных майстроў, з матэрыяламі і прыладамі працы, неабходнымі для вырабу прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

На адным з заняткаў выхаванцы разам з майстрам-залатыя рукі адправіліся ў цікавае падарожжа па горадзе Майстроў.

**Яны будавалі ў горадзе вуліцы рамеснікаў: ганчароў, бондараў, ткачоў, майстроў па пляценні.**

Для гэтага дзеці падбіралі неабходныя прылады працы, а таксама вырабы ганчарства, бондарства, лозапляцення, ткацтва.

З асаблівай зацікаўленасцю нашы выхаванцы распісвалі гліняныя збаны, будавалі дэкаратыўныя кампазіцыі на аб'ёмных вырабах. Пасля праведзенай работы ўсе дзеці атрымалі медалі з надпісам «Майстар – залатыя рукі».

**Наталля СВІРБУТ, выхавальніца ясляў-сада №15 горада Смаргоні.**

# У Маладзечне запускаюць барбер-зону і хімчыстку абутку

**Завод «Рамбыттэхніка» запускае адразу дзве новыя паслугі ў Маладзечне. Кожная з іх не толькі будзе карыснай, але і прыемнай у выкарыстанні.**

## Чаму варта выбраць барбер-зону

Барбершопы становяцца ўсё больш актуальнымі. Усё таму, што дазваляюць не проста падраўняць валасы, а дапамагаюць мужчынам знайсці свой стыль. Калі звычайныя цырульні арыентаваныя больш на жанчын, а мужчыны ў іх атрымліваюць стандартныя паслугі, у барбершопах усё па-іншаму. Тут праца над новай стрыжкай або барадой ператвараецца ў мастацтва. І кожны з кліентаў атрымае менавіта той вобраз, пра які марыў.

Майстар заўсёды ведае самыя модныя і сучасныя тэндэнцыі. І сам мусіць пастаянна падтрымліваць кваліфікацыю. Для барбер-зоны выкарыстоўваюць спецыяльныя інструменты – ад крэслаў да адмысловых машынак для стрыжкі. Усё адаптаванае для камфортнага абслугоўвання мужчын.

У барбер-зоне працуе прафесійны майстар, які прайшоў спецыяльную падрыхтоўку.

## Якія паслугі прапануе барбершоп

Вам прапануюць якасна выканаць наступныя паслугі:

- Мужчынская стрыжка
- Дзіцячая стрыжка
- Мужчынскі манікюр
- Карэкцыя барады і вусоў
- Камуфляж сівізны
- Выдаленне непажаданых валасоў.

## Спецыяльныя прапановы, якія прадугледжваюць скідкі:

«Тата+сын» – сямейны варыянт паслугі. Хлопчыкі могуць прыходзіць на стрыжку ад любога ўзросту.

«Сябры (1+1)» – паслуга, якая асабліва зацікавіць студэнтаў, навучэнцаў.

Для пастаянных кліентаў будзе працаваць сістэма скідак і бонусаў.

У продажы ёсць падарункавыя сертыфікаты на любую суму. Так што вы можаце зрабіць не толькі прыемны, але і карысны падарунак для мужчыны – мужа, маладога чалавека, брата, сябра, таты або калегі. Няхай яны атрымаюць сапраўдны мужчынскі догляд.

## Якія цэны?

Паслугі барбераў даступныя кожнаму – як даросламу заможнаму чалавеку, так і студэнту, які хоча прывабна выглядаць.

## Чаму ў барбешопах так прыемна

Барбер-зоны прыцягваюць кліентаў і якасным абслугоўваннем, і камфортнай абстаноўкай. Інтэр'ер падкрэслівае мужчынскі дух зоны, але не стамляе вочы. Кожны кліент можа назіраць за працай майстра. Падчас чакання вам прапануюць каву, можна паглядзець забаўляльныя перадачы.

## Як прайшло адкрыццё

Барбер-зона пачала працу 20 лютага. Ахвотных паправіць прычоску чакаў майстар-клас ад пераможцы рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў цырульніцкага мастацтва **Арцёма Аўрайцэвіча.**




Майстар-барбер Антаніна Казакевіч стрыжэ фатографа Андрэя Рагінскага.

## Дзе знаходзіцца барбер-зона і як працуе

Барбер-зона месціцца па адрасе: **Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 3-а.**

Рэжым працы: аўторак–субота ад 08:30 да 17:00. Нядзеля і панядзелак – выхадныя дні.

**Як будзе працаваць хімчыстка абутку?**

Паслугай зможа скарыстацца любы ахвотны. Пачысціць можна кеды, красоўкі, жаночыя і мужчынскія чаравікі, туфлі, вырабы са скуры і замшы, нубука і іншых матэрыялаў. Пасля хімчысткі вы атрымаеце рэч, якая будзе выглядаць, як новая. Асабліва актуальная прапанова для спартсменаў.

Для паслугі выкарыстоўваюць італьянскае абсталяванне і італьянскія мыйныя сродкі. Пры гэтым цэны будуць даступныя кожнаму. Падобнай паслугі ў рэгіёне няма, так што скарыстацца змогуць жыхары і іншых раёнаў.

## Дзе размешчаная хімчыстка

У маладзечанскім Доме быту **па вуліцы Будаўнікоў, 15-а.**

Калі вы хочаце пачысціць абутак, скураную куртку, сумку, шлем, можаце здаць рэчы на апрацоўку таксама ў прыёмныя пункты па адрасах:

- вуліца Грамадоўская, 47
- вуліца Прытыцкага, 3-а
- вуліца Янкі Купалы, 110/200.

УНП 600153255




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Hyundai Accent 2014 г., прабег 57 тыс., падагрэў сядзенняў, люстэрак, задняга шкла, камп'ютар, кандыцыянер. Т. МТС 2611461, Вэлком 9187744.

• Вольва S60. Т, (8-029) 3295149 Вэлком.

• Фіят-Уліс, 1995 г.в., газ-бензін, в рабочым стане. Т. (8-029) 6080111.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Старыя савецкія матацыклы і запчасткі. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвы драўляны дом у а.г. Залессе Смаргонскага раёна. 25 сотак зямлі. Плошча дома – 37 кв. м. На тэрыторыі знаходзяцца гаспадарчыя пабудовы, сад, агарод. Магчымы падвод газу. Побач вакзал і аўтобусны прыпынак. Т. (8-029) 1056204.

• 2-пакаёвая кватэра ў Ашмянах у цэнтры горада. Нядорага. Т. (8-029) 3794607.*

• 2-пакаёвая кватэра ў п. Чысць Маладзечанскага раёна па вул. Цэнтральнай, 2 з гаражом, хлеўчыкам і агародам, 1 паверх 2-павярховага цаглянага дома 1991 года, 52/29/7,6, санвузел раздзельны, шклопакеты, металічныя дзверы, зашклёная лоджыя, тэлефон. Пад вокнамі абгароджаны сеткай агарод (вішні, слівы, яблыні, парэчкі, маліна). Побач з домам – газасілікатны гараж 5х6, 2 цагляныя хлеўчыкі. Цана 57000 рублёў Т. (8-029) 6690450.*



• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, Незалежнасці. Мэбля. Гараж. Т. (8-029) 585482.*

• Дом драўляны, недабудаваны, хлеўчык, гараж, 15 сотак. Г. Смаргонь. Т. (8-033) 6898720.

• Дом у в. Цынцавічы, 91 Вілейскага раёна. Т. (8-029) 2524943.

• Дом у Вілейцы, раён «Зеніта», 55 кв.м. Т. (8-029) 7610785.

• Дом у Маладзечне па вул. Велікасельскай. Т. (8-033) 6393440.*

• Участак. Вілейка, вул. Стаўкі, 9. Т. (8-029) 1825368, (8-044) 7133606.*

### МЯНЯЮ

• 1-пакаёвую кватэру ў к.п. Нарач на Маладзечна. Т.(8-044) 4901101.*

### ЗДАМ

• Кватэру на суткі. Т. (8-029) 6216628.*

• Кватэру ў 6-м мікраераёне Маладзечна. Т. МТС (8-029) 2103019.*

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі з маніпулятарам. ІП Баброўка Д.А. УНП 692028167. Т. (8-044) 5521402.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў. ІП Высоцкі А.С. УНП 692245001 Т. (8-029) 7357499.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Наносім фота/надпіс на кубак/майку, 9 рублёў. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442, Т. (8-01592) 44717.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Т-16 з дакументамі. Т. (8-029) 2449142.

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік б/у, маразільнік б/у, аэрагрыль б/у, прафесійны міксер для малочных кактэйляў на 1 шклянку б/у. Т. (8-033) 6379544.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Шафа кніжная «Давіль» «Маладзечнамэблі». Новая. Белая. Т. (8-029) 3854030.*

**Музінструмент**

• Піяніна, а/г Шылавічы. Т. (8-029) 2729557.*



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Казёл 10 месяцаў і козлік з козачкай 1,5 месяца. Помесь зааненскай і англа-нубійскай парод. Т. (8-029) 3597375 Таццяна.*

• Шчаняты ўсходнееўрапейскай аўчаркі, чыстакроўныя. Т. (8-029) 9106184.*

**Іншае**

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

• Стужачна-пільны станок вытворчасці Латвія; заточны-разводны станок. Пагрузчык вытворчасці Львоў. Т. (8-029) 7091266.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць» па Ашмянскім, Астравецкім, Смаргонскім, Валожынскім, Маладзечанскім, Вілейскім, Мядзельскім раёнах. Т. (8-029) 5019550.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Сядзелка для хворай з парушанай каардынацыяй руху (невялікі рост і вага). Магчыма круглясутачнае пражыванне з выгодамі. Аплата дагаворная. Маладзечна. Т. (8-029) 9689636.



Іван Літвіновіч (першы справа) на пераможным п'едэстале разам са спартсменамі з Кітая.

# Батутыст Іван Літвіновіч узяў серабро на этапе Кубка свету ў Баку

ВІЛЕЙКА

**Два медалі заваявалі беларускія спартсмены на першым сёлета этапе Кубка свету па скачках на батуце.**

Спаборніцтвы завяршыліся на Нацыянальнай гімнастычнай арэне ў Баку. У самым прэстыжным відзе праграмы, індывідуальных скачках, другім стаў Іван Літвіновіч з Вілейкі.

Яго вынік – 61.360 бала. На п'едэстале разам з Іванам два кітайцы. Першае месца з вынікам 61.585 заняў Гао Лей. А бронзу ўзяў Дон Дон. Яго вынік – 60.260.

З паспяховым выступленнем на этапе Кубка свету па скачках на батуце ў Баку вілейчука Івана Літвіновіча павіншаваў старшыня Мінскага аблвыканкама **Аляксандр Турчын**.

У тэлеграме, накіраванай на адрас спартсмена, адзначаецца, што ў гэтым годзе Кубак свету сабраў 150 лепшых спартсменаў з 30 краін, у тым ліку дзеючых і экс-чэмпіёнаў свету і Еўропы.

«Пасля заваёвы двух медалёў на чэмпіянаце свету ў 2019 годзе Вы сёння пацвердзілі статус аднаго з наймацнейшых спартсменаў, стаўшы сярэбраным прызёрам у самым прэстыжным відзе праграмы, індывідуальных скачках», – гаворыцца ў віншаванні.

Аляксандр Турчын адзначыў: «Упэўнены, мы яшчэ не раз пачуем аб бліскучых выступленнях і ўбачым Вас на вышэйшых прыступках п'едэстала гонару». Кіраўнік вобласці пажадаў вілейскаму батутысту моцнага здароўя, дабрабыту і новых спартыўных поспехаў.

**Паводле Мінаблвыканкама і Беларускай асацыяцыі гімнастыкі.**

## Ад 1 сакавіка забараняюць лавіць шчупака

**Адным з асноўных насельнікаў нашых вадаёмаў з'яўляецца шчупак звычайны.**

Ранняй вясной, калі пачынаецца раставанне лёду, шчупак выходзіць на водмель, каб адкласці ікру. Нераст праходзіць даволі бурна.

Ікру шчупак адкладае на леташнія расліны. Працягласць нерасту залежыць ад надвор'я і тэмпературы вады. Мінімальная тэмпература для вады нерасту шчупака складае +4°С. Пры спрыяльных умовах надвор'я нераст праходзіць некалькі дзён. Адна самка шчупака адкладае ад 4,5 да 240 тысяч ікрынак. Маляўкі з ікры з'яўляюцца праз 8-12 дзён пасля нерасту.

З мэтай стварэння спрыяльных умоў для размнажэння шчупака Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ўстаноўленыя пэўныя абмежаванні і забароны на лоўлю гэтай рыбы.

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь лоўля шчупака забароненая ад 1 сакавіка да 15 красавіка, а па Віцебскай вобласці – ад 9 сакавіка да 25 красавіка.

Заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь устаноўленая адказнасць за парушэнне Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. За незаконную здабычу рыбы ў перыяд забароны шкода спаганяецца ў трохразовым памеры. Такім чынам, за кожнага незаконна здабытага шчупака прыйдзецца пакрыць шкоду ў суме 243 рублі.

Акрамя таго, парушальнік атрымае адміністрацыйны штраф ад 540 да 1350 рублёў, а ў выпадку прычынення шкоды ў памеры 100 і больш базавых велічынь чакае крымінальная адказнасць. У дадзеным выпадку пакаранне больш суровае, аж да пазбаўлення волі на тэрмін да трох гадоў.

Калі вам стала вядома аб фактах парушэння прыродаахоўнага заканадаўства, Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць паведамляць аб гэтым на тэлефон даверу **(8-017) 390-00-00** альбо на тэлефон **+375(17)975-07-40**. Усю атрыманую інфармацыю абавязкова праверац.

**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы расліннага і жывёльнага свету.**

## Школа дзюдо ў Маладзечне адзначае 40 гадоў

На гэтым тыдні адзначае 40-гадовы юбілей школа дзюдо Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа. Кіраўніком з'яўляецца **Вячаслаў Міхайлавіч Дзеравянка**, які і заснаваў гэту школу.

Вячаслаў Дзеравянка – выхаванец аршанскай СДЮШАР. У пачатку 1980-х прыехаў працаваць у Маладзечна. Ён падрыхтаваў майстроў спорту, членаў юнацкай, юніёрскай і нацыянальнай зборных Беларусі. **Уладзімір Панарын**, **Іван Яцыновіч**, **Валер Пяркоўскі** сталі першымі з гэтай плеяды маладзечанскіх хлопцаў.

**Аддзел інфармацыі.**

# Памёр легендарны разведчык Аляксей Бацян

## Ён быў з Валожыншчыны і стаў прататыпам маёра Віхра

ВАЛОЖЫН

**Легендарны разведчык Аляксей Бацян памёр на 104-м годзе жыцця 13 лютага ў Маскве.**



Фота забеспячэнне Марыяй БЕРАСНЕВАЙ

Ліпень 2018. Аляксей Бацян з роднымі падчас апошняга прыезду ў родную вёску Чартавічы. Злева направа Марыя Бераснева, сястра Аляксандра Шакун з Мазуркі Валожынскага раёна, якой не стала трохі больш за год, Аляксей Бацян і дачка Аляксандры Шакун Ніна Садоўская з Маладзечна.

Ён нарадзіўся 10 лютага 1917 года ў Чартавічах Віленскай губерні. Цяпер гэта вёска ў Валожынскім раёне.

### Пляменніца легендарнага разведчыка: пра дзядзьку Алёшу згадвалі ў сям'і

У «Рэгіянальнай газеце» працуе адна з пляменніц Аляксея Бацяна – стыль-рэдактар **Марыя Бераснева**. Яна вельмі ганарыцца сваім дзядзькам. Мы пагутарылі з Марыяй Браніславаўнай пра знакамітага сваяка.

– Пра свайго брата Алёшу мама часам згадвала, – кажа Марыя Браніславаўна. – Але ж ніхто не ведаў, дзе ён і чым займаецца. Першы раз пасля доўгага расстання сваякі сустрэліся толькі ў 1972 годзе. Але мне яго пабачыць не ўдалося, здавала якраз экзамены ў школе. А ён быў праездам і затрымаўся ненадоўга. Ужо будучы дарослай у газеце «Совершенно секретно» я ўбачыла вялікі артыкул пра яго. Радня гэту газету перадавала з рук у рукі. І менавіта тады хоць трохі сталі ведаць, хто такі Аляксей і чым ён займаецца. У адным з часопісаў пісалі, што ён быў знаёмы са знакамітым **Шцірліцам** (Ісаевым).

### Як Аляксей Бацян стаў Леа Дворжакам

З родных Чартавічаў у 1939 годзе Аляксея Бацяна прызвалі ў армію. Падчас вайны трапіў у разведшколу. Пасля вайны маладога разведчыка з парашута закінулі ў Чэхаславакію. Трэба было выдаць сябе за мясцовага жыхара, атрымаць адукацыю, зрабіць кар'еру, укараніцца ў мясцовыя спецслужбы, якія цікавіліся ўранавай рудой. А паспрабуй гэта зрабі, калі нават мовы не ведаеш.

Аляксей дапамог нейкай чэхаславацкай бабулі пасекчы дровы. Тая прытуліла хлопца. Праз нейкі час разведчык вывучыў мову, скончыў мясцовы тэхнікум і для ўсіх стаў чэхам **Леа Дворжакам**. Тут пазнаёміўся з прыгожай чэшкай **Геленай Вінзейль** і ажаніўся з ёй. Укараніўся ў неабходныя спецслужбы і стаў пастаўляць інфармацыю ў Савецкі Саюз.

**Калектыў «Рэгіянальнай газеты» выказвае шчырыя спачуванні стыль-рэдактару Марыі Браніславаўне Берасневай з прычыны смерці любімага дзядзькі.**

### А муж аказаўся Аляксеем

Пра тое, што яе муж не чэх Леа Дворжак, а савецкі разведчык Аляксей Бацян, – працягвае расказваць Марыя Бераснева, – Гелена даведалася дзесьці праз 10 год пасля вяселля, калі сям'я ўжо мела дачку. Ён паехаў у Савецкі Саюз і яго амаль год не было. Вядома, жонка ўрэшце забіла трывогу. Пасля прыехаў сябар Аляксея і забраў яе з дачкой і маці, але на пагранічным пункце жонцы сказалі, што за вамі прыехаў Бацян. Тая: "Я такога не ведаю". Якраз быў вечар, цёмна, цяжка каго распазнаць. Але тут чатырохгадовая дачка вырвалася ад пагранічнікаў і кінулася насустрач са словамі па-чэшску: «Тацінка! Тацінка!» – «Татачка! Татачка!». Пагранічнік іх і прапусціў.

Кар'ера разведчыка ледзь не скончылася ў 1953 годзе, калі ў Саюзе даведаліся, што ў Бацяна жонка-замежніца.

**Аляксея з органаў звольнілі і ён нейкі час працаваў метрдатэлем у рэстаране ў Маскве. Тады па савецкіх дакументах Гелена стала Галінай Бацян.**

Праз паўтара года Аляксея зноў узялі на службу. Яны з сям'ёй вярнуліся ў Чэхаславакію, пасля былі камандзіроўкі ў іншыя краіны. Але гэты перыяд жыцця па сёння застаецца пад грыфам «Сакрэтна».

### У гонар героя-разведчыка хлопчыкаў у радні называюць Аляксеямі

Знакамітага сваяка Марыя Бераснева пабачыла ў 1978 годзе, ён тады гасцяваў у іх. А яна якраз нарадзіла свайго першынца. Сына Марыя вырашыла назваць **Аляксеем** – у гонар дзядзькі-разведчыка. Дарэчы, у гонар разведчыка назвалі і іншых хлопчыкаў у радні.

– Пра сваякоў Аляксей Бацян заўсёды памятаў, – расказвае Марыя. – Неяк падарыў мне і яшчэ адной пляменніцы Ніне Садоўскай падарожжа на цеплаходзе па Волзе. Мы ўзялі сыноў і паехалі ў Маскву. Гэта быў 1991 год. Вярнуліся з падарожжа, а Масква ў барыкадах. Запрашаў і майго брата Антона Нелюба на працу ў органы КДБ, але той адмовіўся.

### Апошні раз наведаў Чартавічы ў ліпені 2018 года

У 2018 годзе мы пісалі пра тое, як легендарны разведчык наведаў родную вёску Чартавічы. Прыезд у Беларусь тады прымеркавалі да 100-годдзя службы камітэта дзяржбяспекі. Чартавічы разведчык наведаў 28 ліпеня 2018 года. А днём раней у Мінску зладзілі міжнародны турнір па шахматах на кубак Аляксея Бацяна. Ён зрабіў першы ход. І вельмі ўзрушаліся масквічы, што выйгралі беларусы. На сустрэчы з вітальным словам выступіў кіраўнік КДБ **Валеры Мікульчык**.

На радзіме Аляксей Бацян наведаў магілы бацькоў, блізкіх сваякоў. Пасядзеў у доме, дзе нарадзіўся. Калі картэж машын заехаў у Чартавічы, людзі выходзілі са сваіх дамоў. Некаторыя падыходзілі, каб павітацца з Аляксеем Мікалаевічам і пагаварыць. Аляксей Бацян быў вельмі рад сустрэчы з землякамі, сваякамі.

### Ганарыўся тым, што ён беларус

Аляксей Бацян стаў прататыпам галоўнага героя кнігі Юліяна Сямёнава і аднайменнага фільма «Маёр Віхр», якія прысвечаны праведзенай у 1945 годзе аперацыі па выратаванні ад знішчэння нацыстамі польскага горада Кракаў.

Ваяваў на тэрыторыі Украіны, дзе падарваў 80 афіцэраў Оўручскага гебітскамісарыята. У 1945 годзе група Бацяна падарвала склад з боепрыпасамі ў Ягелонскім замку, што ў Польшчы. Такім чынам немцы не змаглі знішчыць плаціну вадасховішча на рацэ Дунаец.

Пасля вайны працаваў у цэнтральным апараце Першага галоўнага ўпраўлення КДБ СССР, удзельнічаў у стварэнні групы спецыяльнага прызначэння КДБ СССР «Вымпел». А пасля адстаўкі ўжо як грамадзянскі спецыяліст яшчэ шэсць гадоў дапамагаў рыхтаваць «маладых спецыялістаў».

Узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і Айчыннай вайны І ступені, высокімі польскімі і чэхаславацкімі ўзнагародамі. У постсавецкай Расіі яго ўзнагародзілі ордэнам Мужнасці, а ў 2007 годзе ён стаў Героем Расіі.

Па ўспамінах сваякоў, Аляксей Мікалаевіч ганарыўся тым, што ён беларус. І тым, што за ўвесь час яго працы варожая куля толькі адзін раз трохі зачапіла скронь.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Гербы рэгіёна і іх гісторыя

## Маладзечна



**Герб:** у блакітным полі іспанскага шчыта на сярэбраным воблаку Багародзіца ў залатой кароне, у блакітных і залатых строях, залатой мантыі з чырвонай падбіўкай, якая трымае ў руках белае покрыва.

21 снежня 1999 года герб Маладзечна зацвердзілі рашэннем №23 Маладзечанскага гарадскога Савета дэпутатаў.

У XIX стагоддзі Маладзечна было даволі буйным мястэчкам з развітой інфраструктурай. У 1811 годзе тут адкрылі дваранскае павятовае вучылішча, у 1864-м – Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. У 1873 годзе праз Маладзечна праклалі Лібава-Роменскую чыгунку, якая садзейнічала эканамічнаму росту. У горадзе працавалі прадпрыемствы па перапрацоўцы мясцовай сыравіны, паштовая станцыя, бровар, штотыдзень адбываліся кірмашы.

У 1867-1871 гадах у Маладзечне ўзвялі Пакроўскую царкву. Да гэтага на тым месцы была ўніяцкая. У Пакроўскай царкве самы стары абраз – гэта Багародзіца з покрывам. Таму вырашылі зрабіць маладзечанскі герб менавіта такім. Хрысціянскія святыя захаваныя на некалькіх гербах Мінскай вобласці, у тым ліку і на гербе Маладзечна.

## Вілейка



**Герб:** у чырвоным полі французскага шчыта – сярэбраная рака, па ёй плыве ўніз судна, нагружанае двума сярэбранымі звязанымі цюкамі з залатым жытнім коласам.

Герб Вілейкі зацверджаны 10 красавіка 2001 года рашэннем №40 Вілейскага райвыканкама.

Вілейка атрымоўвала гербы ад расійскіх манархаў двойчы: у 1796 годзе ад Кацярыны II і ў 1845 годзе ад Мікалая I. Тлумачыцца гэта рознай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай прыналежнасцю Вілейкі. Спачатку горад знаходзіўся ў Мінскім намесніцтве, пазней – у Віленскай губерні, што і знайшло сваё адлюстраванне ў верхняй частцы гербаў.

На больш раннім – герб Мінскі: двухгаловы арол, на грудзях якога шчыт з выявай Дзевы Марыі. На іншым – герб Вільні: узброены вершнік на белым кані, у правай руцэ якога паднятая дагары шабля, а ў левай – сярэбраны шчыт, на якім намаляваны залаты васьміканцовы крыж.

Развіццю Вілейкі спрыяла гандлёвае суднаходства. Па рацэ Віліі ў Заходнюю Еўропу вывозілі лес, лён, пяньку, збожжа, воск. У горадзе штогод праводзіліся чатыры кірмашы. Нагружаная таварамі барка ў гербе, як адзначаецца ў фон Вінклера, паказвае, што «на той рацэ будуюць судны і адпраўляюць на іх з розных месцаў тавары і прадукты».

## Валожын



**Герб:** у чырвоным полі варажскага шчыта залатая літара «W» з чорнымі палоскамі.

Герб Валожына зацверджаны рашэннем №78 Валожынскага райвыканкама 22 чэрвеня 1998 года.

У пісьмовых крыніцах Валожын вядомы з XIV-XV стагоддзяў. Горадам валодалі князі Валожынскія. Доктар гістарычных навук Расадзін мяркуе, што гэты род валодаў гербам «Абданк» – дзве сярэбраныя кроквы са зрэзанымі донцамі, звернутыя вяршынямі ўніз і злучаныя паміж сабой накшталт літары W.

У далейшым Валожын як прыватнае валоданне паслядоўна, на працягу цэлага шэрагу стагоддзяў належаў шляхетным і ўплывовым людзям ВКЛ. На аснове радавой геральдычнай эмблемы князёў Валожынскіх, адных з першых уладальнікаў мястэчка, быў створаны сучасны герб Валожына. У адрозненне ад «Абданка», у гарадскім гербе не сярэбраныя кроквы, а залатыя, і ўнутры іх чорныя касыя лініі.

Геральдычная фігура ў гербе Валожына можа нагадваць пакладзеныя побач дзве кнігі. Сімвал друкаванай кнігі на Валожынскім гербе не выпадковы. У Лоску, непадалёк ад Валожына, Ян Кішка заснаваў друкарню, у якой выдаваліся кнігі на польскай і лацінскай мовах. Сымон Будны, беларускі гуманіст і асветнік, выдаў у гэтай друкарні Новы Запавет – першую ў сусветнай літаратуры спробу радыкальнай рацыяналістычнай крытыкі евангельскіх кніг.

## Смаргонь



**Герб:** у сярэбраным полі іспанскага шчыта на чырвонай рашотцы стаіць на задніх лапах чорны мядзведзь, у пярэдніх лапах якога герб Радзівілаў – у блакітным полі тры чорныя паляўнічыя ражкі, злучаныя ў цэнтры муштукамі.

Герб Смаргоні зацверджаны 1 снежня 2004 года Указам Прэзідэнта Беларусі.

З першай паловы XVII стагоддзя Смаргонню валодалі князі Радзівілы і Пшэздзецкія. Радзівілы заснавалі школу дрэсіроўкі мядзведзяў – «Смаргонскую акадэмію». Мядзведзяў дрэсіравалі недалёка ад горада, на так званых «французскіх узгорках».

Маладых мядзведзяў саджалі ў клетку з металічным дном, ставілі зверху выкапанай ямы, на дне якой раскладвалі вогнішча. На гарачай рашотцы мядзведзь, стаўшы на заднія лапы, пачынаў «танцаваць», і ў гэты час чуўся ўдар бубна, свісток і гэтак далей.

Менавіта гэты гістарычны факт з гісторыі горада быў узяты ў аснову гербавага сюжэту Смаргоні. Прыналежнасць населенага пункта князям Радзівілам адлюстраваная і ў гербе, які трымае мядзведзь.

## Ашмяны



**Герб:** французскі шчыт, які мае перакулена-вілападобнае дзяленне. У правым чырвоным полі намаляваная рука, якая трымае залатыя шалі, у левым блакітным – залаты шчыт, у ніжнім сярэбраным – чырвонае цяля.

Герб заснаваны Указам Прэзідэнта Беларусі ад 17 ліпеня 2006 года.

Горад Ашмяны вядомы па пісьмовых крыніцах з 1340 года як населены пункт Віленскага княства і замак вялікіх князёў літоўскіх. У пачатку XVI стагоддзя Ашмяны атрымалі магдэбургскае права, а ў гэты час горад меў статус цэнтра Ашмянскага павета.

22 мая 1792 года Станіслаў Аўгуст пацвердзіў права на самакіраванне і даў герб. Ён уяўляў сабой сярэбраны трохчастковы шчыт з выявай у адпаведных палях рукі з вагамі, шчыта і прыватнага герба роду Панятоўскіх – «Цяля», у ніжняй частцы якога размяшчаецца надпіс «Memoria Stanislai Augusti. 1792».

У 1845 годзе зацвердзілі новы герб Ашмянаў і Ашмянскага павета. Герб уяўляў перасечаны шчыт, у верхняй частцы якога герб Віленскай губерні (у чырвоным полі сярэбраны вершнік з узнятым мячом і шчытом), у ніжняй частцы – у блакітным полі мядзведзь (мясцовыя жыхары займаліся паляваннем на мядзведзяў). Сучасны герб спалучае ў сабе два гербы, якія з'яўляліся сімваламі горада.

## Астравец



**Герб:** варажскі шчыт, перасечаны хвалістым поясам зялёнага колеру, у верхнім сярэбраным полі якога намаляваны дуб натуральнага колеру з зялёным лісцем, у ніжнім блакітным – сярэбраная стронга.

Герб і сцяг зацверджаны Указам Прэзідэнта Беларусі ад 14 чэрвеня 2007 года.

Пры стварэнні герба ўлічаныя гістарычныя падзеі і геаграфічнае размяшчэнне Астраўца, якім валодалі прадстаўнікі родаў Гаштольдаў, Карыцкіх, Корсакаў.

Дуб – гэта моц, цягавітасць, даўгалецце, вера і слава.

Рыба на гербе Астраўца – стронга, з'яўляецца раннехрысціянскім сімвалам, звязаным з урадлівасцю, выкананнем жаданняў і справядлівасцю. Стронга на тэрыторыі Беларусі водзіцца толькі на Астравеччыне.

## Мядзел



**Герб:** у блакітным полі іспанскага шчыта на зялёным ускрайку сярэбраны замак з трыма вежамі, на якіх вымпелы з крыжамі Святога Георгія.

Герб горада Мядзел зарэгістраваны 21 красавіка 2001 года.

Да пачатку XX стагоддзя горад дзяліўся на Стары і Новы з-за чумы. Стары Мядзел згадваецца ў пісьмовых крыніцах каля 1454 года. Кашталян Саковіч пабудаваў тут касцёл, які знішчылі падчас вайны 1500-1503 гадоў паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай.

Аб Новым Мядзеле ёсць звесткі 1557 і 1569 гадоў. Гэта частка горада злучалася пры дапамозе моста з востравам, на якім быў пабудаваны каралеўскі замак.

Цяпер захаваліся руіны абарончага комплексу. Яго складалі каменныя вежы і палац, якія былі акружаныя земляным валам з бастыёнамі і ровам, які запаўняўся вадой з возера.

Беларускі доктар гістарычных навук Ткачоў пісаў:

– Мядзельскі замак – прыклад злучэння асаблівасцяў заходнееўрапейскай фартыфікацыі з мясцовымі абарончымі элементамі. У час ваеннай небяспекі замак служыў надзейным сховішчам для жыхароў Мядзела і ваколіцаў. Яго разбурылі падчас Паўночнай вайны 1700-1721 гадоў.

Стылізаваную выяву гэтага помніка архітэктурнага і абарончага мастацтва можна ўбачыць у сучасным гербе Мядзела.



Падрыхтавала Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## ● КАЛЯНДАР

### 21 ЛЮТАГА

**Міжнародны дзень роднай мовы.** Абвешчаны ў лістападзе 1999 года рашэннем 30-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА з мэтай абароны моўнай і культурнай разнастайнасці.

### 22 ЛЮТАГА

**1883.** Нарадзіўся **Станіслаў Булак-Балаховіч** – беларускі, польскі і расійскі вайсковы дзеяч. Афіцэр кавалерыі Рускай імператарскай арміі, генерал-маёр Белай арміі, генерал Асобага атрада БНР, камандзір добраахвотніцкіх атрадаў польскай арміі ў 1920 г., удзельнік грамадзянскай вайны ў Іспаніі на баку генерала Франка. Таксама вядомы як Бацька Булак-Балаховіч.

### 23 ЛЮТАГА

**1907.** Нарадзіўся **Станіслаў Станкевіч** (в. Арляняты, Ашмянскі павет, цяпер Смаргонскі раён – 6 лістапада 1980) – беларускі грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, крытык, публіцыст. Псеўданімы: Алесь Крыга, Дзівасіл, С. Крушыніч, А. Скіба, Алесь Скіба, Раман Шарупіч ; крыптонімы: Ст. Ст., Др. Ст. Ст.

### 24 ЛЮТАГА

**1935.** Нарадзіўся **Рыгор Барадулін**, беларускі паэт.

### 25 ЛЮТАГА

**1836. Сэмюэль Кольт** атрымаў патэнт на шасцізарадны рэвальвер

**1906.** Нарадзіўся **Павал Каруза** (25 лютага 1906, в. Ваўкалатка Вілейскага раёна, па іншых звестках – Докшыцкі раён – 20 лютага 1988, Вільня) – беларускі фалькларыст, кампазітар, грамадска-палітычны дзеяч, журналіст, палітык. У 1947-1948 працаваў у Маладзечанскім доме творчасці дырыжорам абласнога ансамбля песні і танца. У СССР падвяргаўся палітычным рэпрэсіям. Рэабілітаваны.



### 26 ЛЮТАГА

**1918.** Нарадзіўся **Пётр Машэраў**, шматгадовы кіраўнік Беларускай ССР (пам. 4.10.1980). Ад лістапада 1943 – першы сакратар Вілейскага падпольнага абкама ЛКСМБ. Двойчы паранены. 1944 – 1946: 1-ы сакратар Маладзечанскага абкама ЛКСМБ.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**



Верхні рад злева направа: Віктар Якубовіч, Міхаіл Шніпман, Мікалай Сафронаў, Надзея Кукель, Святлана Бійко, Валянціна Цадко. Ніжні рад злева направа: Зоя з паралельнага класа, настаўніца фізікі Таццяна Пятроўна Маркелава, Валянцін Сушко, Антаніна Кукель, Паліна Грышаева, Людміла Аляксандраўна Трутнева, Ларыса Гулевіч.

# Сустрэўся з аднакласнікамі праз 50 год

МАЛАДЗЕЧНА

**Вось і ўвайшоў у гісторыю дзень 1 лютага 2020 года, дзень сустрэчы з аднакласнікамі. Мы – былыя вучні 10 «В» класа маладзечанскай школы №8.**

Вельмі хваляваліся, таму што амаль паўвека прайшло з таго часу, як пакінулі сваю альма-матар.

Вельмі цяжка было развітвацца са сваімі сябрамі, настаўнікамі. Кожны з нас уступаў у новае жыццё, пра якое яшчэ нічога не ведаў. У той час мы былі дзецьмі, а цяпер нам па 67 год.

## Вечар шчымлівых успамінаў

Але да новага жыцця нас вельмі добра падрыхтавала наш класны кіраўнік **Людміла Аляксандраўна Трутнева**. На класнай гадзіне яна казала:

– Не ўсё ў гэтым свеце так хораша і ўтульна. Давядзецца вам сутыкнуцца і з падманам, і са здрадай, і з іншымі жыццёвымі перашкодамі.

У гэты дзень, 1 лютага, мы сустрэліся на парозе нашай восьмай школы.

> **Усе такія ўсхваляваныя, прайшло ж амаль 50 год з таго часу, як мы класам фатаграфаваліся на гэтым самым месцы. Слёзы радасці, прывітанні, успаміны.**

Прыгадвалі нашых настаўнікаў, якія ўжо сышлі ў іншы свет. Гэта дырэктары **Уладзімір Каралькоў**, **Ілля Салавейчык**, намеснік дырэктара **Уладзімір Нічыпаровіч**.

Вельмі прыемна было сустрэцца з настаўніцай **Таццянай Маркелавай**.

> **А наша любімая класная Людміла Трутнева – тая, што нас аб'ядноўвае, з якой мы сябруем ужо паўстагоддзя.**

Часта збіраемся разам, абмяркоўваем падзеі, распавядаем пра жыццё, святкуем дні нараджэння і памінаем тых аднакласнікаў, якіх з намі не стала. Але яны назаўсёды застануцца ў нашых сэрцах.

Нас запрасілі ў актавую залу, дзе вітальнае слова сказаў цяперашні дырэктар школы **Аляксей Шарамет**. Ён уручыў граматы Людміле Трутневай і Таццяне Маркелавай. А мы ўручылі былым настаўнікам ружы. Толькі чаму былым, яны назаўсёды будуць заставацца нашымі настаўнікамі.

Вельмі спадабаўся канцэрт, відэаролік, у якім паказалі здымкі ўсіх выпускнікоў, самі настаўнікі выступілі з песнямі. Ад імя нашага класа выступіла **Паліна Грышаева** – прыгадала настаўнікаў, праспявала песню.

Калі яшчэ мы так сустрэнемся ў школе, якая дала падмурак ведаў. Каб кожны з нас далей пайшоў сваёй дарогай. І сталі мы хто рабочым, хто доктарам, хто інжынерам, хто педагогам. Гэта месца, дзе мы навучыліся любіць, кахаць і сябраваць.

## Некаторых аднакласнікаў ужо няма

Раскажу пра тое, як склаўся лёс маіх аднакласнікаў. Пачну з тых, каго з намі ўжо няма. Першым сярод нас трагічна памёр **Уладзімір Савельеў**. Вучыўся ва ўніверсітэце Томска. **Генадзь Кукель** скончыў універсітэт, працаваў навукоўцам. Памёр ад апраменьвання.

**Сяргей Купцоў** скончыў Маладзечанскае радыёвучылішча, атрымаў смяротныя траўмы падчас працы на будоўлі. Быў душой нашага класа. **Яраслаў Сушко** працаваў на чыгунцы, таксама на заводзе парашковай металургіі.

## Кім сталі мае аднакласнікі

Цяпер раскажу пра тых, хто сустрэў юбілей выпуску. Нашы дзяўчаты, якія сталі настаўнікамі і вучылі дзетак музыцы і замежным мовам, – **Паліна Грышаева**, **Надзя Кукель**, **Ларыса Гулевіч**. **Валянціна Цадко** скончыла тэхнікум, працавала загадчыкам магазіна, была камсоргам. **Святлана Бійко** – касір-прадавец, з мужам-ваеннаслужачым аб'ехала ўвесь свет. **Антаніна Кукель** працавала доктарам-педыятрам, жыве ў Кіеве.

**Аляксандр Лысенка** – ваенны доктар, падпалкоўнік. У Маладзечне загадваў «хуткай дапамогай», працуе і сёння ў гэтай галіне. **Мікалай Сяргей** і **Міша Шнітман** сталі педагогамі. **Віктар Якубовіч** – інжынер халадзільных установак. **Мікалай Сафронаў** – інжынер па сувязі. **Яраслаў Чарнецкі** – інжынер-радыётэхнік.

> **Я, Валянцін Сушко, працаваў станочнікам-мэбельшчыкам з агульным стажам 43 гады.**

Вельмі рады нашай сустрэчы і пішу ўспамін ад усяго сэрца. Жадаю ўсім сваім аднакласнікам здароўя!

**Валянцін СУШКО, Маладзечна.**

# Футбольныя клубы «Маладзечна» і «Андэрдог» аб'яднаюць?

**12 лютага з'явілася інфармацыя, што маладзечанскі клуб плануюць расфарміраваць.**



Падчас гульні паміж ФК «Маладзечна» і ФК «Андэрдог».

Як перадае спартыўнае выданне «Трыбуна», кіраўніка аддзела спорту і турызму не задаволіў раздзьмуты бюджэт «Маладзечна» ў 2019 годзе. А маладзечанскі клуб хочуць аб'яднаць з чысцінскай камандай «Андэрдог». «РГ» спрабуе разабрацца ў сітуацыі.

Разам з інфармацыяй аб магчымым расфарміраванні ФК «Маладзечна» апублікаваў ліст ад маладзечанскага аддзела спорту і турызму. У ім сцвярджаецца, што аддзел «не пацвярджае поўную фінансавую адказнасць і ўдзел ФК «Маладзечна» ў першай лізе». Ліст з гэтай фармулёўкай у АБФФ адправіў начальнік аддзела спорту і турызму **Раман Кузняцоў**.

## «Ніхто не збіраецца развальваць маладзечанскі футбол»

Карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» сустрэліся з Раманам Кузняцовым, каб высветліць, што на самой справе адбываецца з маладзечанскай камандай.

– Ніхто не збіраецца развальваць маладзечанскі футбол. Плануем аб'яднаць ФК «Маладзечна» і «Андэрдог» у адну каманду. Не я адзін вырашаю пытанне, пра гэта размаўляў са старшынёй выканкама, а потым і са старшынёй Мінаблвыканкама.

Кузняцоў адзначыў, што размаўляў з кіраўніцтвам чысцінскага і маладзечанскага клубаў.

– Прапанаваў камандам аб'яднацца. Маладзечна не хоча, а Чысць – за. Размаўляў з **Ярамчуком** з «Тэсла клаб», і ён ідэю падтрымаў.

Пакуль няма рашэння, якая назва будзе ў аб'яднанага клуба. Кузняцоў запэўнівае, што гісторыю і традыцыі маладзечанскага футбола ніхто не збіраецца знішчаць. Магчыма, будуць ствараць брэнд на назве «Андэрдог».

## Дзяржфінансаванне для ФК «Маладзечна»

Начальнік аддзела спорту кажа, што адна з галоўных задач – адысці ад дзяржаўнага фінансавання клуба.

– Каманды, якія гэта зрабілі некалькі гадоў таму, ужо сталі брэндамі. Цяпер усе адыходзяць ад дзяржаўнай падтрымкі. Паглядзіце на «Дынама-Брэст» ці БАТЭ, яны не атрымліваюць столькі сродкаў на развіццё ад райвыканкамаў.

> Кузняцоў лічыць, што клуб павінны стаць прыватным, таму што футбол – гэта бізнес.

## А што з дзіцяча-юнацкім футболам?

Начальнік аддзела спорту распавёў, што ФК «Маладзечна» не ўзаемадзейнічаў з дзіцяча-юнацкім футболам:

– Мы зацікаўленыя не ў выніку аднаго сезона, а ў перспектыве. Колькі маладзечанскіх футбалістаў гулялі ў мінулым сезоне ў камандзе? У такім выпадку заўсёды прыводжу прыклады камандаў, якія таксама гуляюць з футбалістамі пераважна з іншых гарадоў. Гэта Узда і Клецк. У гэтых камандах толькі адзін ці два выхаванцы са свайго горада. А вось у Стоўбцах большасць гульцоў сваіх. Параўнайце вынікі іх выступленняў.

Кузняцоў дадаў, што ў мінулым годзе каманда заняла трэцяе месца ў другой лізе, аднак, на яго думку, перспектывы каманда не мае. Усё з-за таго, што гулялі дарослыя футбалісты, а маладых маладзечанцаў практычна няма.

> – Каманда праводзіла аднаўленчыя зборы ў снежні. Выйшлі ў першую лігу, ведаючы жа, што склад зменіцца прыкладна на 70%. Навошта было праводзіць такі збор?

Кузняцоў распавёў пра план збораў для прагляду дзвюх камандаў:

– Будзем праводзіць збор, на які запросім прыкладна 60 футбалістаў. Трэба 40 адмесці, а 20 пакінуць. Таксама ідзе абмеркаванне кандыдатур на пасады. Галоўны трэнер **Аляксей Вяргеенка** – пад пытаннем, яго можа змяніць замежны спецыяліст.

Такім чынам, райвыканкам разглядае аб'яднанне як варыянт развіцця маладзечанскага футбола. Сысці ад дзяржфінансавання і стварыць паўнавартасную структуру, дзе будзе месца для футбалістаў-выхаванцаў з Маладзечна.

## Што кажуць прадстаўнікі ФК «Маладзечна»

ФК «Маладзечна» апублікаваў афіцыйны каментар аб магчымым аб'яднанні з «Андэрдогам».

– На сёння ў нашага футбольнага клуба ўжо на 90% сфарміраваны бюджэт на сезон у першай лізе за кошт спонсарскіх дамоў і іншай фінансавай дапамогі. Пры гэтым праца па пошуку пазабюджэтнага фінансавання клуба працягваецца. Аднак сітуацыя, якая склалася з будучыняй каманды, ставіць усе нашы перамовы на паўзу, выключаючы зразумелы недавер з боку патэнцыйных інвестараў.

У каментары сцвярджаецца, што па плане праходзіць трэніровачны працэс каманды, плануюць спарынгі. Таксама гаворыцца, што ФК «Маладзечна» практычна завяршыў падрыхтоўку дакументаў для атрымання ліцэнзіі, неабходнай для ўдзелу ў першай лізе.

– Завяршыць працэдуру перашкаджае жаданне аддзела спорту і турызму Маладзечанскага раённага выканаўчага камітэта сілком стварыць новы клуб на нашай базе. У той час, як ФК «Маладзечна» на падставе вышэйпададзенага з'яўляецца самадастатковай юрыдычнай асобай, здольнай самастойна вырашыць пытанне аб удзеле ў першай лізе без якіх-небудзь рэарганізацый.

**Алег Страхановіч**, які гуляе за ФК «Маладзечна», падзяліўся бачаннем сітуацыі. Ён упэўнены, што маладзечанскі клуб павінны выступіць у першай лізе, аднак без аб'яднання з «Андэрдогам».

– Тое, што цяпер робіцца з нашай камандай, – яскравы прыклад, як можна пахаваць беларускі футбол. За два гады ФК «Маладзечна-2018», створаны фактычна з нуля на энтузіязме Аляксея Вяргеенкі, дамогся права выступаць у першай лізе. І за гэта клуб хочуць знішчыць? За добрую справу?

Старшыня федэрацыі футбола Маладзечанскага раёна **Андрэй Душэўскі** таксама падтрымлівае ідэю пра выступленне ФК «Маладзечна» ў першай лізе:

– Пытанне аб зліцці дзвюх камандаў? Лічу, гэта поўнае трызненне. Я вельмі ўдзячны **Яхнаўцу** і **Мікалаю Уладзіміравічу Шрымфу**, якія выслухалі нас з Аляксеем Вяргеенкам у свой час без запісаў на прыём. На той сустрэчы і прынялі рашэнне аб арганізацыі ДУ (Дзяржаўнай установы «Футбольны клуб Маладзечна-2018»). І згодна з планам развіцця, які, я так разумею, спадар Кузняцоў і не чытаў, было запланавана аб'яднанне футбольнай каманды, ДЮСШ-4 і гарадскога стадыёна ў адну структуру, якая павінна была займацца развіццём футбола ў Маладзечанскім раёне.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Падлетак на судне, які рыхтуецца стаць матросам і вывучае марскую справу.
4. Будучы муж нявесты.
5. Пісьмовае або вуснае пагадненне, умова аб узаемных абавязацельствах.
6. Перавага сваіх асабістых інтарэсаў пад інтарэсамі іншых людзей або грамадства.
9. Пашкоджанне механізма, машыны ў час дзеяння, руху.
10. Бакавы адростак на ствале дрэва.
12. Невядома, незразумела што.
14. Дастатак, матэрыяльная забяспечанасць.
16. Зменшаная ў мільёны разоў мадэль зямнога шара або нябеснай сферы, умацаваная на вертыкальнай падстаўцы.
17. Рух рукі, галавы, які суправаджае або замяняе чалавечую мову.
18. Уяўная лінія, якая праходзіць вакол зямнога шэра на роўнай адлегласці ад абодвух полюсаў і падзяляе зямны шар.
20. Унутраны, душэўны стан.
21. Перыядычнае, звычайна штодзённае, друкаванае выданне інфармацыйнага характару, а таксама экзэмпляр гэтага выдання.
22. Карціна, ілюстрацыя.
25. Прафесійны яздок на конных скачках.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Прыстасаванне, дзе распальваюць і падтрымліваюць агонь.
3. Дзелавая або сардэчная размова.
7. Асоба каманднага саставу арміі і флоту, якая мае воінскае званне ад малодшага лейтэнанта да палкоўніка ўключна.
8. Урачыстая песня, прынятая як сімвал адзінства.
11. Ядавітае рэчыва, якое згубна дзейнічае на жывы арганізм.
13. Беражліва.
15. Абход для агляду, разведкі.
17. Від выяўленчага мастацтва, які перадае прадметы і з'явы навакольнага свету пры дапамозе фарбаў.
19. Прыпынак нанач для сну, адпачынку.
20. Сёмы дзень тыдня.
22. Які выклікае прыемнае ўражанне, прыхільнасць да сябе; чароўны, абаяльны.
23. Плоскі, аднасна шырокі і нятоўсты кавалак дрэва, выпілаваны або вычасаны з бервяна.
24. Умоўны графічны знак для запісу гукаў музыкі.

## Адказы на крыжаванку з №7

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Шавінізм. 2. Цеста. 4. Апёк. 6. Агонь. 9. Шрыфт. 10. Чума. 11. Гашкевіч. 16. Соладка. 17. Золата. 19. Абмен. 20. Шакалад. 24. Жонка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Шапка. 2. Цугцванг. 3. Цвік. 5. Сівізны. 7. Мазь. 8. Магнат. 9. Шнур. 12. Шаля. 13. Ачко. 14. Верона. 15. Ціск. 18. Адвага. 21. Цана. 22. Адэкалон. 23. Падкова.



● ГАРАСКОП НА 21-27 ЛЮТАГА

## Якія вы ў бізнесе

**АВЕН.** Вам важна быць лідарам, і ў вас ёсць усё, каб ім быць. Калі займаецеся бізнесам, то можаце дасягнуць значных вышынь. Вам не трэба нічыя падтрымка, цалкам хапае сваёй энергіі і энтузіязму.

**ЦЯЛЕЦ.** Вы сур'ёзныя і грунтоўныя. І да працы ставіцеся з усёй адказнасцю. Складана знайсці больш надзейнага працаўніка. Калі пачынаеце новую справу, патрэбны час, каб разагнацца. Затое такі падыход дазваляе падрыхтавацца да таго, каб наладзіць справу.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вас лёгка зацікавіць новай ідэяй. Вы лёгка знаёміцеся з людзьмі, падтрымліваеце і наладжваеце з імі сувязі. Вы вельмі творчыя і не выносіце руціну і манатоннасць. У бізнесе важна, каб дзейнасць была звязаная з людзьмі.

**РАК.** Часам можа падавацца, што Ракі спакойныя, але на самой справе гэта тонкія псіхолагі, актыўныя дзеячы і прадпрымальныя работнікі. Дзякуючы інтуіцыі яны могуць нават самую безнадзейную справу падняць да перспектыўнага ўзроўню. Самае галоўнае для вас – прыязная атмасфера.

**ЛЕЎ.** Вы выдатныя ў арганізатарскай працы, любіце быць навідавоку. Выдатна расказваеце пра свае ідэі і захопліваеце імі іншых. Вы можаце дасягнуць поспеху ў галінах палітыкі, мастацтва, забаў.

**ДЗЕВА.** Вы незаменныя ў сур'ёзных праектах. Ваш аналітычны розум, дэталёвы разгляд усіх складнікаў, акуратнасць і дакладнасць дапамагаюць выканаць любую задачу найлепшым чынам.

**ШАЛІ.** Вы лепш за іншых можаце заключаць здзелкі, наладжваць партнёрскія адносіны, шукаць кампрамісы. Вам з лёгкасцю ўдаецца рэалізаваць сябе ў сферы гандлю, абслугоўвання, права. Вы цэніце ўсё прыгожае.

**СКАРПІЁН.** Вы выдатна ўмееце рабіць тую працу, якая пакідае выканаўцу ў цені. Вы лепш за іншых выконваеце канфідэнцыяльныя заданні. Да працы ставіцеся як да ваенных загадаў – дакладна і ў час. Можаце працаваць у экстрэмальных умовах.

**СТРАЛЕЦ.** Вы можаце надоўга засяроджвацца на адной ідэі, увасабляць важную агульначалавечую задачу. Важна, каб пасада і праца былі прэстыжнымі. З задавальненнем робіце свет лепшым, вы – выдатныя спонсары і ўдзельнікі дабрачыннасці.

**КАЗЯРОГ.** Падзеі вашага жыцця ідуць па дакладным плане. Уважлівыя да заданняў, за даплату гатовыя працаваць больш за рабочы дзень. Складана ідзяце на кампрамісы.

**ВАДАЛЕЙ.** Вы любіце эксперыментаваць, даследаваць і знаходзіць новае. Вас пастаянна прыцягваюць новыя гарызонты. Не церпіце ціску на сябе, важна, каб у кампаніі была актыўная праца. Не імкняцеся кіраваць, важна, каб заўсёды было цікава.

**РЫБЫ.** Эмацыйны і летуценны знак. Каб адчуваць сябе ўпэўнена, вам важна мець аднадумцаў. Найлепш раскрываецеся ў сферах мастацтва. Слабы момант Рыб – фінансы. З імі патрэбная дапамога.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | | | | 4 | | | 1 |
| | | 3 | 7 | 5 | | | | |
| | 6 | | 1 | 2 | 3 | | | |
| | | | 2 | 3 | 1 | | | |
| | | | 4 | | 8 | | | 3 |
| | 8 | | 9 | | 5 | 7 | | |
| 6 | | | 5 | | | | 7 | |
| | | | 8 | 4 | 6 | | | 9 |
| | 2 | 8 | | | | 6 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

• #РГ25

## Дар'я Ліс, журналіст-фрылансер, Залессе:

# «Газета стварае і падтрымлівае культурніцкі асяродак»

– «Рэгіянальная газета» – тое выданне, якое ўжо 25 год працуе ў нашым рэгіёне, звяртаючы ўвагу на навіны, пішучы пра культуру, літаратуру, а галоўнае – пра цікавых і неардынарных людзей. Газета стварае і падтрымлівае культурніцкі асяродак, якога так не хапае ў малых гарадах і мястэчках, асабліва ў Смаргоні, дзе няма свайго незалежнага выдання. Дзякуй.

***

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**




А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!



## Чытайце праз тыдзень:

- Што важнага расказалі на кангрэсе для бацькоў MAMA PRO? Якія парады далі дактары? Што трэба ведаць тым, хто чакае дзіця, і тым, хто ўжо гадуе сына або дачку?

## 22 лютага, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 4-5 м/с




Усход 8.34
Захад 18.19
Даўжыня дня 9.45

Усход 1.30
Захад 11.22
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -23,4°C у 2011 годзе
Максімальная тэмпература +3,6°C у 2017 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,3 мм у 1978 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## «Рэгіянальная газета» – цёплыя навіны ў зімовы дзень



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

• ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якія апошнія творы вы чыталі на роднай мове?

**Яна Чарняўская, гаспадыня, Мядзел:**
– Я чытаю дзецям казкі. Апошнюю пра дзятла, лісіцу і варону.



**Надзея Асаднік, медсястра, Вілейка:**
– Летам па дарозе ў Адэсу перачытала Івана Мележа «Людзі на балоце».



**Дзмітры Скуратовіч, рабочы, Маладзечна:**
– Івана Мележа «Людзі на балоце» чытаў. Цяпер не часта чытаю, няма часу.



**Юры Высоцкі, участковы інспектар, Вілейка:**
– Апошнім разам чытаў Васіля Быкава «Дажыць да світання». Не скажу, што часта чытаю, пад настрой. Зараз пачаў «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцына.



**Алег Жаўняровіч, аператар, Маладзечна:**
– Назвы не памятаю, бо іх шмат. Гэта творы з цяперашняй школьнай праграмы па беларускім чытанні, бо прыходзіцца рабіць урокі са сваім сынам.



**Наталля Жукоўская, інжынер-тэхнолаг, Маладзечна:**
– Нават і не памятаю. Гэта было вельмі даўно. Цяпер толькі чытаю нататкі ў сетцы альбо ў газеце.



**Ірына Белановіч, выхавальніца, Маладзечна:**
– Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».



**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№8 (1295) 21.02.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 295. Падпісана ў друк у 9.00 20.02.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.